Цана асобнага нумару 10 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 10 (61). Вільня, Субота 29 студня 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. (WILNO, POŁOCKA 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## ПОЛЬСКАЯ ПРЭСА.

Калі-бы не ўзнікала справа нацыянальных меншасьцяў у Польшчы, той ці іншы польскі палітык стараўся сказаць, што прычынай ненармальных адносінаў меж урадам і меншасьцямі і наадварот, г. зн. прычына ўсіх прычын цяперашніх адносінаў Беларусаў да ўраду, крыецца толькі ў благой (злой) адміністрацыі „Крэсаў". Вось зьмяні ўсю адміністрацыю, галілейцаў замяні кангрэсавякамі, дык усё адразу зьменіцца—пачнецца для Беларусаў чуць не райскае жыцьцё.

Калісь можа і былі такія Беларусы, што маглі-б паверыць гэтаму, але цяпер напэўна ніводнага ня знойдзецца. Ды гэта зусім зразумела. Трэба ведаць, што польская адміністрацыя ў Заходняй Беларусі пераважна складаецца з людзей нямаючых адпаведнай асьветы, людзей, якія пры сваім роўні інтэлігенцыі мала разьбіраюцца ў палітычным жыцьці. Усе іхныя пагляды на грамадзкія і палітычныя справы выпрабляюцца ў іх перадусім на аснове польскай прэсы.

Усё тое, што піша іхная газэта „Dziennik Wileński" ці „Słowo" зьяўляецца для іх ненарушальнай праўдай. Ведаем добра, хто выдае газэту „Dzień. Wileński", хто „Słowo". Першую выдаюць польскія эндэкі, другую—паны-абшарнікі. Як адны, так і другія не прызнаюць зусім Беларусаў. Прызнаць Беларусаў, дык значыць даць ім усе належныя правы, даць ім права жыць—перадусім даць сялянам зямлю і інш. Ніводзін, ані польскі эндэк, ані польскі пан-абшарнік, самахоць ня можа з гэтым згадзіцца.

Дык нічога дзіўнага, што польскія эндэцкія і абшарніцкія газэты ўвесь час нападаюць на беларускія газэты, нападаюць ня толькі на беларускія палітычныя партыі, але і на культурныя ўстановы.

У гэтых нападах вышэй успомненыя віленскія газэты стараюцца адна адну выперадзіць. Увесь час у гэтых выперадках біў рэкорд „Dzień. Wil.", але ў апошнія часы, дзякуючы пэўна ўплывам сярод урадовых колаў, газэта „Słowo" „перапчагаляла" (выперадзіла) ўсе польскія газэты. Апошнія арышты далі повад „Słowu" выявіць усю ягоную падлаготную. Сколькі цынізму, сколькі брахні, сколькі бруду, сколькі лаянак, сколькі ілжы не выпісывала гэтая абшарніцкая газэта на Беларусаў і на беларускі нацыянальны рух.

Для нас гэтая шчырасьць вельмі патрэбна, прынамсі будзем добра ведаць з кім маем справу, і вылічым сабе з гэтага адпаведныя паказальнікі.

Але вось што будзе з тымі, што ня маюць сваіх паглядаў на грамадзка-палітычныя адносіны нашага краю, што будзе з дробнымі ўрадоўцамі і наагул польскімі чытачамі польскіх газэт?

Яны-ж кормяцца толькі стравай з рожных „дзеньнікаў" ды „словаў". Яны будуць сьляпымі выканальнікамі ўсяго таго, што распісываюць гэтыя польскія газэты на Беларусаў і на беларускі рух, а што на'т нязгодна з праўдай, што зьяўляецца проста злосным выдумам. Рэзультаты-ж гэтага выкажа гісторыя.

Дык, калі-б скажам, зьмянілася адміністрацыя, то гэтая зьмена не прынясла-б ніякае карысьці для Беларусаў і для беларускае справы, бо корань польскіх адносінаў да нас якраз ляжыць сярод эндэкаў і паноў-абшарнікаў і іх прэсы. Ад гэтае прэсы і ад яе гаспадароў ніколі не спадзяваліся нічога добрага і не спадзяёмся. Мы можам спадзявацца толькі на свае сілы, можам спадзявацца толькі на тое, што наш народ цяпер ужо чытае свае беларускія газэты, з якіх даведваецца аб праўдзе, даведваецца аб тым, што польскія эндэцкія і абшарніцкія газэты нападаюць на Беларусаў і на беларускае адраджэнскае жыцьцё. Праз гэтае асьведамленьне і праз свае беларускія арганізацыі, ці то культурныя, ці то палітычныя, Беларускі Народ стане на роўні з іншымі эўропэйскімі народамі.

*А. Незалежнік.*

## Арышты у Заходняй Беларусі.

### Адозва Беларускага Пасольскага Клюбу.

У сувязі з масавымі арыштамі і арыштамі беларускіх паслоў, Беларускі Пасольскі Клюб дня 21 студзеня с. г. выдаў адозву да Беларускага Народу. Гэтая адозва сканфіскавана камісарам ураду на м Вільню.

### Пратэсты і рэзалюцыі.

У сувязі з арыштамі паслоў і беларускіх грамадзкіх дзеячаў цэлы сьцяг беларускіх установаў абвясьціў свае пратэсты. Гэтыя пратэсты зрабілі: Беларускі Пасольскі Клюб, Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні, Галоўная ўправа Т-ва Беларускай Школы, Пэдагагічная Рады Віленскай Беларускай Гімназіі і іншыя.

### Справа арыштаваных паслоў у рэгуляміновай камісіі.

Рэгуляміновая і нятычнасьці пасольская соймавая камісія дня 24 студзеня ўзялася за разгляд справы выданьня арыштаваных паслоў. На паседжэньні быў прысутны маршалак Сойму Ратай, а таксама прадстаўнікі ўраду: міністар справядлівасьці Мэйштовіч, падпракуратар апэляцыйнага суда з Вільні Прылуцкі, пракурор апэляцыйнага суда з Варшавы Рудніцкі, дарадчык м-ства справядлівасьці Мольдэнгавэр і з надзору пракуратарскага пры М-стве Справядлівасьці Кучынскі.

Павадырстваваў камісіяй пасол Попель (НПР). Адчыняючы паседжэньне ён падчыркнуў, што сабраў камісію перагаварыўшы з маршалкам Сойму, хоць справа гэтая не перайшла яшчэ праз пленум Сойму. На парадку дня стаіць справа арыштаваньня паслоў.

Маршалак Ратай са свайго боку асьвятліў, што зьбірае паседжэньне камісіі, лічучы справу затрыманьня паслоў за ненармальную, з якой трэба як найхутчэй зрабіць выхад. Але калі-б падняўся хоць адзін голас протэсту, маршалак мусіў-бы ўзяць справу назад, а заўтра перадаць яе пленум Сойму.

Пасол Ярэміч сказаў гэтае: Арыштоўваючы паслоў урад зламаў Канстытуцыю. Аднак ня відаць патрэбы пры разгледжаньню гэтай справы ламаць яшчэ рэгулямін. Ня віджу прычыны да гэтага сьпеху, затое буду прасіць пана міністра аб паясьненьнях.

Павадыр п. Попель паясьніў да гэтага: на парадку дня стаіць адна гэтая справа. Калі-б пасол Ярэміч затрымаў свой пратэст, дык паседжэньне зараз-жа будзе замкнута, а наступнае адбудзецца найраней у сераду рана.

Дзеля таго, што пас. Ярэміч астаўся пры сваім першым пратэсьце, паседжаньня рэгулямінавай камісіі не адбылося.

26-га студзеня адбылося паседжаньне рэгуляміновай камісіі. Камісія разглядала прапазыцыю ўраду аб выданьні беларускіх паслоў.

Міністар Мэйштовіч і падпракурор Віленскага Апэляцыйнага Суду Прылускі даводзілі аб ненарушэньні імі Канстытуцыі і аб вінаваченьні паслоў.

У абароне паслоў забіраў голас пас. Ярэміч. Паседжаньне камісіі было тайнае.

Наступнае паседжаньне комісіі было вызначана на пятніцу.

### Паседжаньне Сойму.

Паседжаньне Сойму 25 г. студня пачалося а 3 гадзіне папалудні першым. Пунктам парадку дня была перадача рэгулямінавай камісіі ўрадавай прапазыцыі аб выданьні 5 паслоў. У гэтай справе ўзяў голас п. Сабалеўскі, грамадовец, які востра напаў на ўрад і жадаў, каб Сойм дамагаўся звальненьня арыштаваных паслоў. У гэтым месьце ўзяў голас маршалак Ратай і сказаў, што Сойм можа адкінуць унесак, або перадаць яго рэгулямінавай камісіі, але ня можа ён аднак, да часу развязаньня справы распарадзіцца аб звальненьні паслоў. Тады пачаліся ў соймавай салі авантуры, у якіх натта вызначаўся пасол Ваявудзкі, якога маршалак у канцы выдаліў з Сойму на працяг 1 месяца.

Прапазыцыя аб выданьні паслоў пераслана ў рэгулямінавую камісію.

Далей распачаліся дыскусіі, над бюджэтам.

### Недавер маршалку Сойму.

У сувязі з тым, што маршалак Сойму не зажадаў ад ураду звальненьня арыштаваных паслоў, Беларускі Пасольскі Клюб, Клюб Грамады і іншыя падалі ў Сойме прапазыцыю аб выказаньні недаверу маршалку Сойму Ратаю. Ёсьць ведама, пры галасаваньні гэтай прапазыцыі ў Сойме дня 26 студзеня, усе польскія клюбы былі проці гэтай прапазыцыі, а дык маршалкам астаўся п. Ратай з Клюбу „Пяста".

**Дык кожны, хто ўмее чытаць, спяшайся выпісаць сваю газэту „Сялянскую Ніву".**

